www.nv-online.info

№ 66 (4215)

22 жніўня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Да 27 жніўня

чакаюць у паштовых аддзяленнях і спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку" ўсіх, хто з-за адпачынкаў і дачнага сезона часова спыніў падпіску на "Народную Волю". У Вас ёсць магчымасць з 1 верасня зноў атрымліваць любімую газету. Толькі не спазніцеся з аднаўленнем падпіскі!

***Вы – з "Народнай Воляй", "Народная Воля" – з Вамі!***

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ, спецыяльна для «Народнай Волі»

## Кабякоў плануе, а Пуцін руйнуе

Беларускі ўрад разлічвае ў 2018 годзе надбавіць валавы ўнутраны прадукт на 3,4%. Такую лічбу назваў прэм'ер Андрэй Кабякоў на пасяджэнні прэзідыума Саўміна на мінулым тыдні. Што ж, гэта падобна на нейкае святло ў канцы тунэля. Але святло пакуль што прывіднае. Бо такі рост прадугледжаны мэтавым сцэнарыем, бюджэт жа будзе разлічвацца паводле іншага сцэнарыя – кансерватыўнага, з павелічэннем ВУП толькі на 1,1%. Што азначае практычна таптанне на месцы.

Зрэшты, нават болей аптымістычны сцэнарый можа радаваць хіба што на фоне рэцэсіі, у якой наша эканоміка праседзела два гады. Насамрэч і мэтавы (яшчэ віламі па вадзе пісаны) сцэнарый толькі набліжае Беларусь да сярэднесусветных тэмпаў эканамічнага росту. А нам жа трэба даганяць перадавыя краіны. Іначай кажучы, расці, як Кітай апошнія чвэрць стагоддзя. Але пра гэта нашы ўрадоўцы і не заікаюцца. Усё, спёкся "ўсходнееўрапейскі тыгр", пра якога ганарліва трубілі туэйшыя прапагандысты ў гады шалёных расійскіх датацый.

І вось тут мы падступаемся да галоўнага. Колькі б ні маракаваў пан Кабякоў з падначаленымі, Крэмль здольны ўсё перакрэсліць адным махам. І тады нават кансерватыўны сцэнарый можа пасыпацца. Паводле дадзеных Даследчага цэнтра ІПМ, у выпадку, калі Беларусь атрымае налета толькі 18 млн тон нафты (замест жаданых 23–24 млн), эканамічны рост можа скласці не болей за 0,5%.

Скажаце, раздзімаю страшылкі? Але ж, хаця толькі ўвесну Лукашэнка з Пуціным закапалі сякеру працяглай нафтагазавай вайны, Масква ўжо пляце новую інтрыгу – заганяе Беларусь у транзітную пастку. Днямі Уладзімір Пуцін даручыў звязаць аб'ёмы паставак нафты ў Беларусь з умовай, каб нашы НПЗ транспартавалі нафтапрадукты на экспарт праз расійскія парты. А гэта і далей, і даражэй (нават з улікам зніжкі, якую дае расійская чыгунка), чым праз парты краін Балтыі, як тое робіцца цяпер. У нас з прыбалтамі ўсё адшліфавана, ды і проста яны, кладучы руку на сэрца, больш пунктуальныя, чым усходнія партнёры. Акрамя ўсяго іншага, расійскія порты яшчэ і замярзаюць. У любы момант пахаладанне можа наступіць і ў адносінах па між Мінскам ды Крамлём, так што дадатковая прывязка да расійскай інфраструктуры і ў гэтым сэнсе непажаданая, не варта складаць усе яйкі ў адзін кошык.

Між тым Мінэнерга Расіі ўжо ўзялося выконваць установку Пуціна і, як паведаміў кіраўнік ведамства Аляксандр Новак, неўзабаве распрацуе прапанову аб абавязковым выкарыстанні беларускімі вытворцамі нафтапрадуктаў расійскай транспартнай інфраструктуры пры пераваліцы грузаў. Міністр дадаў, што Масква можа паставіць сёлета Беларусі і меней за 24 млн тон нафты (на такі аб'ём бакі дамовіліся пасля красавіцкага замірэння Лукашэнкі з Пуціным).

А гэта ўжо можна расцэньваць як мяккі (пакуль што) шантаж. Якім можа быць прымус да ўмоў Масквы, мы памятаем на прыкладзе мінулага года, калі былі рэзка зменшаны пастаўкі нафты і беларускія НПЗ селі на мель.

Ёсць і яшчэ адзін чыннік, здольны пахаваць аптымістычныя планы беларускага ўрада. Нават калі да чарговай нафтавай вайны ў блізкай перспектыве не дойдзе, наша эканоміка пацярпіць ад новых амерыканскіх санкцый супраць пуцінскага рэжыму. Яны вельмі сур'ёзныя, доўгатэрміновыя і разлічаны, калі казаць наўпрост, на вымотванне Расіі. А паколькі наша эканоміка з расійскай знітавана надта шчыльна, то рыкашэтам атрымаем і мы.

Вы спытаеце: чаму Пуцін заганяе Лукашэнку ў транзітную пастку? Тут некалькі чыннікаў. Па-першае, ідэю відавочна падкінулі лабісты: расійская чыгунка, партавікі за кошт выкручвання рук беларускаму партнёру хочуць кампенсаваць падзенне сваіх даходаў. Па-другое, дзейнічае логіка супрацьстаяння Масквы з Захадам: маўляў, няма чаго карміць грашыма ад транзіту гэтых чортавых прыбалтаў. Па-трэцяе, Крэмль такім чынам хоча мацней прывязаць Беларусь да сябе.

Мінск жа, насупраць, зацікаўлены ўмацаваць адносіны з Еўрасаюзам. Беларуская нафтавая кампанія імкнецца прадаваць болей бензіну ды саляркі ў суседніх краінах, каб зменшыць лагістычныя выдаткі. Расійская схема пашырэння экспарту праз далёкія парты ў гэту стратэгію БНК не ўпісваецца.

Акрамя ўсяго іншага, ідэя Пуціна звязаць у пакет пастаўкі нафты з умовамі транзіту беларускіх нафтапрадуктаў супярэчыць канцэпцыі вольнага перамяшчэння тавараў, паслуг, капіталаў і працоўнай сілы ў ЕАЭС. Пры тым што ідэю ЕАЭС прасоўваў асабіста Пуцін. Як бачым, у выніку свая кашуля аказваецца Крамлю бліжэйшай да цела, а прыгожыя дэкларацыі пра інтэграцыйныя вольнасці адсоўваюцца ўбок. І пачынае працаваць права мацнейшага.

Так што беларускаму начальству давядзецца зноў трымаць бой, расплачвацца за папярэднія гульні ў "братнюю інтэграцыю". Не можа быць раўнапраўнай інтэграцыі з імперыяй, яна зноў і зноў будзе ашчэрваць іклы.

***(Працяг тэмы на 2-й стар.)***

В НОМЕР!

## В Минске встретились представители Трампа и Путина по Украине

*Вчера в белорусской столице в закрытом от прессы режиме прошла встреча спецпредставителей по Украине президентов США и России Курта Волкера и Владислава Суркова. Об этом сообщило Министерство иностранных дел Беларуси в «Твиттере».*



Курт Волкер.
Кадр: YouTube

После встречи не был предусмотрен подход к прессе.

Для Курта Волкера это первая встреча с Сурковым. Ранее с российским переговорщиком общалась помощник госсекретаря США Виктория Нуланд.

Курт Волкер является ведущим американским экспертом в сфере международных отношений и национальной безопасности, а также по делам Европы и Евразии. Как сообщало ВВС после его назначения на должность спецпредставителя по Украине 7 июля, Волкер имеет репутацию «ястреба». В своих показаниях на слушаниях Комитета по международным отношениям Сената 7 апреля 2017 года он призвал администрацию Дональда Трампа противодействовать вызовам со стороны России.



**Владислав Сурков на переговорах «нормандской четверки» в Минске.**
Фото: Вадим Замировский, TUT.BY

Владислав Сурков – давний помощник и советник президента России Владимира Путина. До 2012 года курировал внутреннюю политику Кремля, позже занялся внешней, в частности – ситуацией в Абхазии и Южной Осетии. С началом конфликта в Украине он представлял позицию Москвы и по этой теме. Участвовал Сурков и в переговорах Нормандской четверки в Минске в феврале 2015 года, когда и были подписаны Минские соглашения.

МЕДСПРАВКА

## Консультируют онкологи...

23 и 24 августа в Беларуси пройдет акция «Профилактика меланомы и рака кожи», в ходе которой белорусы смогут дополнительно бесплатно проконсультироваться по поводу меланомы и рака кожи.

На официальном сайте Министерства здравоохранения указано, где и когда будут проходить консультации:

| Название учреждения | Дата проведения акции | Место проведения | Время приема |
|---|---|---|---|
| **РНПЦ ОМР им.Н.Н.Александрова** Минский р-н, аг.Лесной | 24.08.2017 | Консультативная поликлиника, каб.№217 | 10.00–14.00 |
| **Минский городской клинический ОД** г.Минск, пр.Независимости, 64 | 24.08.2017 | каб. №117; каб. №121 + все центральные поликлиники города в каб.онколога | 9.00–14.00 |
| **Брестский областной ОД** г.Брест, ул.Медицинская, 6 | 23–24.08.2017 | каб. №316 + все ЦРБ, кабинеты онколога, кожвендиспансер | 8.00–20.00 |
| **Витебский областной клинический ОД** г.Витебск, ул.П.Бровки, 33 | 23–24.08.2017 | каб. №23 + все ЦРБ, ЦГБ, клинические больницы, кожвендиспансер | 8.00–17.00 |
| **Гомельский областной клинический ОД** г.Гомель, ул.Медицинская, 2 | 24.08.2017 | каб. №20 + все поликлиники города | 8.00–16.00 |
| **Могилевский областной ОД** г.Могилев, ул.Акад.Павлова, 2а | 23–24.08.2017 | каб.№212 + все поликлиники, кабинеты онкологов | 10.00–13.00 |
| **Гродненский областной ОД** г.Гродно, бульвар Ленинского комсомола, 52 | 23–24.08.2017 | каб. №23 онкодиспансерного отделения + все ЦРБ, кабинеты онколога | **23.08.2017** 9.00–13.00; **24.08.2017** 14.00–16.00 |

ЧУЛІ?

## «Белсат» знікне з тэлеэкрана?

*Кіраўнік польскага тэлебачання TVP Яцэк Курскі напісаў кіраўніку МЗС Польшчы Вітальду Вашчыкоўскаму, што вяшчанне тэлеканала «Белсат» можа быць ліквідавана, калі знешнепалітычнае ведамства не адновіць яго падтрымку.*

Паводле інфармацыі газеты «Dziennik. Gazeta Prawna», кіраўнік TVP сцвярджае, што *«бачыць неабходнасць у існаванні»* тэлеканала для Беларусі, але польскае тэлебачанне *«не справіцца фінансаваць яго самастойна»*.

*«Гэта не ўльтыматум, а спроба выратаваць гэты тэлеканал»*, – адзначыў Курскі.

Супрацоўніцтва МЗС з TVP у дзейнасці «Белсата» заканчваецца 31 снежня, бо міністэрства адмаўляецца фінансаваць тэлеканал паводле дамовы, якая існуе з 2007 года.

*«Я не хачу быць кіраўніком, пры якім спыніць існаванне «Белсат», але трансляцыя канала для гледачоў за мяжой не з'яўляецца статутнай дзейнасцю TVP. Мы рабілі гэта паводле дамовы з МЗС. Таму я звярнуўся да міністра Вашчыкоўскага з пытаннем, ён не перадумаў»*, – дадаў Курскі.

МЗС Польшчы пакуль не адказала на ліст Курскага. У прэс-службе міністэрства заявілі, што інфармацыя з'явіцца «пасля падрыхтоўкі і адпраўкі адказу генеральнаму дырэктару TVP», праца над якім вядзецца.

Спадарожнікавы беларускамоўны тэлеканал «Белсат» вяшчае на Беларусь з 10 снежня 2007 года. Ён створаны як структурнае падраздзяленне Польскага тэлебачання, рэдакцыя «Белсата» знаходзіцца ў Варшаве.

У канцы мінулага года стала вядома, што МЗС Польшчы скарачае фінансаванне тэлеканала.

БелаПАН.

БЛІЦ

*У развітых краінах мясцовае самакіраванне ажыццяўляецца ў першую чаргу праз дэпутацкі корпус ніжняга ўзроўню, грамадзянскую супольнасць. Да гэтага павінны імкнуцца і мы, беларусы. Першая прыступка – гэта абранне ў сельскія, раённыя, гарадскія і абласныя Саветы найбольш актыўных, найбольш свядомых і прафесійна падрыхтаваных асоб. Звярнуўшыся да шэрагу лідараў палітычных партый, грамадскіх арганізацый, «Народная Воля» задала ўсім ім адно і тое ж пытанне:*

## «Вы ўжо вызначыліся з тым, каго будзеце вылучаць кандыдатамі ў мясцовыя Саветы?»

**Юрась ГУБАРЭВІЧ, старшыня руху «За свабоду»:**



– Да канца не вызначыліся, пакуль разглядаем розныя варыянты. Адно вядома: людзі гатовы актыўна ўдзельнічаць у кампаніі, ужо ёсць добрая каманда, якая пачынае папярэднюю працу. У любым выпадку кандыдаты будуць, хаця пра іх і рана казаць.

Магу сказаць, што мы вырашылі браць не колькасцю, а якасцю, а таму сёння вядзём гаворку прыкладна пра 30 чалавек па ўсёй Беларусі, якія возьмуць удзел у мясцовых выбарах. Нешта больш канкрэтнае стане вядома ў першай палове восені.

**Валерый УХНАЛЁЎ, намеснік старшыні Беларускай партыі левых «Справядлівы свет»:**



– Маем папярэднія спісы кандыдатаў, але канкрэтна абмяркоўваць наш удзел у выбарах збіраемся ў кастрычніку. Плануем вылучыць кандыдатамі каля 100 сябраў нашай партыі.

**Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА, лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі:**

– Зараз вядзём навучанне кандыдатаў, адбор. І ўжо дакладна прынялі рашэнне, што не будзем ганяцца за колькасным складам.



Няхай гэта будзе адзін чалавек у рэгіёне, але той, на якога ўлады могуць аказаць мінімум ціску і які не перадумае ў апошні момант на конт удзелу ў кампаніі.

Увогуле, у фармаце праваццэнтрысцкай кааліцыі можа быць 200–300 выбарчых акруг, на якіх мы будзем працаваць. Гэта азначае, што наша партыя можа вылучыць на выбары 70–100 чалавек. Зараз у нас прайшлі навучанне ўжо 40 чалавек, імкнёмся, каб гэта былі годныя кандыдаты, якія ведалі б, навошта яны ідуць на выбары і з якім пасланнем.

**Юрась БЕЛЕНЬКІ, намеснік старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі – БНФ:**



– У нас цвёрдае перакананне, што празрыстых выбараў у краіне няма, а таму ніякіх кандыдатаў на чарговы фарс вылучаць не збіраемся.

**Андрэй ДЗМІТРЫЕЎ, сустаршыня рэспубліканскага грамадска-даследчага аб'яднання «Гавары праўду!»:**

– З часткай кандыдатур ужо вызначыліся, але пра канчатковыя лічбы нічога сказаць не магу. Зараз мы праводзім рэгулярныя семінары для тых, хто вырашыў браць



удзел у выбарчай кампаніі. Распрацавалі спецыяльную інструкцыю для чалавека, які хоча стаць кандыдатам.

На сёння 70 чалавек ужо вызначыліся, што яны пойдуць на выбары дакладна, але хапае і такіх, якія пакуль вагаюцца, заахвочваем шмат новых людзей паспрабаваць свае сілы ў выбарчай кампаніі. Тым не менш 100 кандыдатаў ад "Гавары праўду!" – гэта, лічу, той мінімум, які будзе. Але верагодна, што іх назбіраецца значна больш.

**Павел СЕВЯРЫНЕЦ, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя»:**



– Выбараў у Беларусі няма, таму няма і рашэння аб нейкім удзеле ў бліжэйшай выбарчай кампаніі. Магчыма, некаторыя нашы сябры будуць удзельнічаць у кампаніі, але не ў выбарах. Гэта значыць, што яны паспрабуюць у гэты час рэалізаваць свае мясцовыя ініцыятывы, хаця многія прытрымліваюцца тактыкі поўнай адмовы ад удзелу ў выбарах.

**Анастасія ДАРАФЕЕВА, кіраўнік Беларускай партыі «Зялёныя»:**



– Мы выступім на выбарах малым фронтам – ад партыі вылучым 5–7 чалавек.

**Ірына ВЕШТАРД, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада):**

– З пачатку гэтага года абмяркоўваем наш удзел у мясцовых выбарах. Спіс кандыдатаў ёсць, але яшчэ не канчатковы. Няхай спрабуюць людзі, вучацца. Натуральна, хацелася б, каб у кожнай акрузе было па адным кандыдаце ад партыі, але ж



мы рэальна ацэньваем свае магчымасці. Сёння ў нашым спісе каля 60 кандыдатаў, але не факт, што яны ў апошні момант не пакінуць выбарчую дыстанцыю.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ДЗЯРЖАЎНЫ ПРАЕКТ

# ТЫТАНЫ І «ТЫТАНІКІ»

*Я трымаю ў руках першы том Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, падпісаны ў друк 28 жніўня 1969 года. Той самай 12-томнай энцыклапедыі, якая для многіх пакаленняў беларусаў стала настольнай кнігай, лепшым падручнікам і памочнікам. Паколькі ў гэтым годзе выдавецтву «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» споўнілася роўна паўстагоддзя, ёсць нагода ўспомніць хроніку спраў даўно мінулых дзён і правесці некаторыя паралелі з сучаснасцю, паказаць, якія духоўныя тытаны сталі ля вытокаў важнейшага дзяржаўнага праекта і што ўяўляюць сабой сённяшнія «тытанікі».*

## Ідэю прапанаваў Пятрусь Броўка?

Кожны гістарычны факт абрастае міфамі, якія таксама становяцца гісторыяй!

Пра тое, што менавіта **Пятрусь Броўка** агучыў свайму цёзку – Першаму сакратару ЦК КПБ **Пятру Машэраву** такую думку, я прачытала ў **Рыгора Барадуліна.** Працытую яго аповед без змен: *«Застаўшыся без кіраўніцтва Саюзам пісьменнікаў, паэт загарэўся новай ідэяй – стварыць беларускую энцыклапедыю. І калі нехта з «цыкуноў»* (так беларускія пісьменнікі называлі работнікаў ЦК. – **Л.С.**) *пацікавіўся, а ці патрэбна энцыклапедыя ў Беларусі, Броўка цвёрда адказаў: «Вам не шкодзіла б ведаць, што, як лічыцца ў ААН І ЮНЕСКА, маючы каляндар і энцыклапедыю, нацыя можа ўжо называцца нацыяй з поўным правам...»*

Так ці інакш, ідэя атрымала адабрэнне. Тым больш што час быў самы належны. Набліжаліся знакавыя юбілеі – 50-годдзе Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і 900-годдзе Мінска. Ды і прыклад суседзяў падахвочваў дзейнічаць. У Маскве ўжо былі выпушчаны два выданні Вялікай Савецкай Энцыклапедыі, пачалася падрыхтоўка да трэцяга выдання. Украіна таксама расстаралася – надрукавала 17 тамоў «Украінскай савецкай энцыклапедыі» на украінскай мове.

Словам, адставаць Беларусі было неналежна, і 30 снежня 1966 года ЦК КПБ і Савет Міністраў БССР прынялі Пастанову аб стварэнні Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Калі ўлічыць, што справа адбывалася ў самым канцы года, ды яшчэ ў пятніцу, можна з чыстай душой пахваліць партыйных мужоў: думалі не пра яліну і шампанскае, а пра канцэпцыю будучага «універсальнага даведніка».

У студзені 1967 года была сфарміравана галоўная рэдакцыя Беларускай Савецкай Энцыклапедыі Акадэміі навук БССР на правах навукова-даследчага інстытута. Уласна, гэтая дата і лічыцца кропкай адліку гісторыі выдавецтва БелСЭ, якое з 1975 года стала падпарадкоўвацца Дзяржкамвыдату БССР, а пасля атрымання краінай незалежнасці скараціла ў назве слова «савецкая» і стала падведамасным Міністэрству інфармацыі Беларусі.

У першую рэдакцыйную калегію ўвайшлі 25 чалавек. У тым ліку сам Броўка, яго калегі па пяры **Кандрат Крапіва, Пятро Глебка, Максім Танк**, а таксама вядомыя ў рэспубліцы навукоўцы, гісторыкі, музыказнаўцы. Задача перад калектывам была пастаўлена маштабная, калі не сказаць тытанічная: падрыхтаваць сотні лаканічных, але ёмістых артыкулаў па важнейшых тэмы – ад дасягненняў нацыянальнай навукі і прамысловасці да шматвяковай гісторыі Беларусі.

Тыраж запланавалі немалы – 25 тысяч асобнікаў. Каб хапіла і райкамам, і бібліятэкам, і радавым працаўнікам.

Уявіце сабе такую карціну: масціты акадэмікі, пісьменнікі, музыканты накіраваліся ў бібліятэкі, архівы, музеі – штудзіраваць спецыяльную літаратуру і дакументальныя крыніцы. Бо інтэрнэту яшчэ не было і ў памоўцы, камп'ютараў таксама – раскошай лічылася персанальная пішучая машынка, якая дапамагала хутка зафіксаваць мудрыя думкі. А яшчэ ж патрабавалася знайсці ілюстрацыі і перазняць іх звычайным фотаапаратам, паколькі лічбавай тэхнікі тады таксама не існавала.

Затое быў энтузіязм.

### Паслужны спіс – інфармацыя да разважання

*На чале новага выдання ўстаў сам народны паэт Беларусі, член ЦК КПБ, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР **Пятрусь Броўка** (1905–1980), які амаль 20 гадоў, з 1948-га па 1967-ы, кіраваў Саюзам пісьменнікаў Беларусі. Лаўрэат Ленінскай і дзвюх Сталінскіх прэмій, кавалер трох ордэнаў Леніна (у кастрычніку 1972-га ён атрымае чацвёрты ленінскі ордэн разам са званнем Героя Сацыялістычнай Працы). За плячыма паэта вайна, на якую ён пайшоў добраахвотнікам, праца ў франтавым і партызанскім друку, дзясяткі зборнікаў паэзіі і прозы. Не проста зборнікаў – прыжыццёвы збор твораў у 4 тамах шматлікім яго калегам па пяры і не сніўся. Так, ёсць вершы пра партыю і нават пра Сталіна. Але ёсць і душэўная лірыка. «Пахне чабор» – гэтыя радкі знаёмы кожнаму школьніку.*



## Справу працягнуў Іван Шамякін

Першы том быў здадзены ў набор 12 снежня 1968 года. Яшчэ 8 месяцаў спатрэбілася, каб падпісаць яго ў друк.

Карпатлівая праца ўсіх удзельнікаў творчага пачыну, ад вярстальшчыка да пераплётчыцы, была ўзнагароджана не толькі прэміяй, але і друкаванымі лаўрамі: на апошніх старонках тома змясціліх іх прозвішчы. Былі названы і прадпрыемствы, прыцягнутыя да выпуску: Паліграфічны камбінат імя Я.Коласа, друкарня Выдавецтва ЦК КПБ, фабрыка №2 ГУГК пры СМ СССР і папяровая фабрыка імя Ю.Янониса ў Літве.

24 лістапада 1969 года рэдкалегія здала ў набор другі том, які 3 чэрвеня 1970 года выйшаў у друк.

Магу ўявіць, як радаваўся Пётр Усцінавіч Броўка, трымаючы яго ў руках! Бо на 404-й старонцы быў змешчаны артыкул пра яго самога, народнага, масцітага, паважанага! Скрупулёзны чытач можа заўважыць: прысвечаны паэту тэкст крыху большы, чым суседняя публікацыі. Але даруем піянеру энцыклапедычнага руху Беларусі гэтую маленькую слабасць – адзін пералік узнагарод і заслуг колькі месца займае!

Пётр Усцінавіч узначальваў БелСЭ да 1980 года, аж да сваёй смерці. На змену яму прыйшоў **Іван Шамякін.** А выдавецтву ў тым жа годзе прысвоілі імя Петруся Броўкі.

### Паслужны спіс – інфармацыя да разважання

*Народны пісьменнік Беларусі Іван Пятровіч Шамякін (1921–2004) прадстаўляў больш маладое пакаленне беларускіх літаратараў. Хоць таксама прайшоў суровую школу вайны: камандзір гарматнага разліку, камсорг дывізіёна.*

*Узнагарод і тытулаў Шамякін сабраў, бадай, не менш за Петруся Броўку. Герой Сацыялістычнай Працы, кавалер ордэнаў Леніна, Кастрычніцкай рэвалюцыі, трох ордэнаў Працоўнага Чырвонага Сцяга, Дружбы народаў, «Знак Пашаны», Айчыннай вайны II ступені, ён абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета рэспублікі (1963–1985) і Вярхоўнага Савета СССР (1980–1989). А з 1971-га па 1985 год паралельна з працай у БелСЭ нават узначальваў Вярхоўны Савет БССР.*

*І, што важна, пісаў кнігі. З-пад яго пяра выйшла 12 раманаў, 26 аповесцяў і 10 п'ес. Агульны тыраж кніг пісьменніка склаў больш за 25 мільёнаў асобнікаў.*

*З 1980-га па 1992 год, калі Шамякін узначальваў выдавецтва, былі выдадзены 7-томны «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», 5-томная «Энцыклапедыя прыроды Беларусі», «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі», энцыклапедыі і даведнікі «Янка Купала», «Францыск Скарына і яго часы», «Этнаграфія Беларусі», «Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне».*

## Энцыклапедыя з залатой «Пагоняй» на вокладцы

Далоў чырвоны савецкі колер! Даеш чорную вокладку з ціснёнай золатам «Пагоняй» – сімвалам беларускай незалежнасці!

Першы том 6-томнай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (на самай справе тамоў выйшла 7 – 6-ы прыйшлося суправадзіць дадаткам), выпушчаны ў 1993 годзе накладам 20 тысяч асобнікаў, знаўцы шануюць асабліва. У ім упершыню ўбачылі свет шматлікія факты з айчынных і замежных архіваў, у тым ліку і засакрэчаныя. Нарэшце зніклі пустоты-недагаворкі «чырвонай» энцыклапедыі пра тое, што не сваёй смерцю памерлі ў 1937–1938 гадах сотні беларускіх літаратараў, навукоўцаў, палітыкаў. Гэта быў быццам струмень свежага паветра ў расчыненае насцеж акно! У той пераломны і поўны надзей час галоўным рэдактарам Беларускай энцыклапедыі быў прызначаны насуперак існуючай традыцыі не пісьменнік, а доктар гістарычных навук, нястомны краязнаўца, археолаг, геральдыст, актыўны прыхільнік нацыянальнага адраджэння **Міхась Ткачоў**.

Міхаіл Аляксандравіч, які аб'яднаў вакол сябе такіх жа, як сам, энтузіястаў гістарычнага адраджэння, напісаў цудоўную прадмову да новага выдання. Але, на жаль, таленавіты вучоны занадта рана пайшоў з жыцця, прабыўшы на пасадзе зусім мала: з красавіка па кастрычнік 1992 года.

Справу Ткачова працягнуў вядомы пісьменнік **Барыс Сачанка**, пад кіраўніцтвам якога ўбачыў свет другі том гістарычнай энцыклапедыі. На ім таксама горда красуецца залатая «Пагоня».

Але ўжо трэці том «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», падпісаны да друку 22 жніўня 1996 года, выйшаў без залатога герба. Прычым вокладка стала не адзіным змяненнем ў выданні.

### Паслужны спіс – інфармацыя да разважання

*Міхась Ткачоў (1942–1992) за сваё кароткае жыццё паспеў многае. Папрацаваў, яшчэ будучы школьнікам, на цэментавым заводзе – каб набраць неабходны двухгадовы стаж для паступлення на гістарычны факультэт. (Такая вось была ўстаноўка: браць у гісторыкі ад сахі і кіркі.) Панастаўнічаў у раённай школе пасля заканчэння ўніверсітэта. Паўдзельнічаў у дзясятках археалагічных раскопак. Стварыў у Гродне, куды пераехаў з Мінска, гісторыка-культурны клуб «Паходня» і ўратаваў ад варварскага зносу не адзін старадаўні будынак. Ініцыяваў стварэнне «Мартыралогу Беларусі» для ўшанавання імёнаў тых, хто загінуў ад сталінскага тэрору. Абараніў доктарскую дысертацыю. І пры гэтым знаходзіў час для палітычнай дзейнасці – у складзе аргкамітэта Беларускага Народнага Фронту і на чале Цэнтральнай Рады БСДГ.*

*А яшчэ ён – аўтар кніг, якія дапамагаюць беларусам людзьмі звацца: «Замкі Беларусі (XIII–XVII стст.)», «Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII–XVIII стст.», «Замкі і людзі» і больш за 400 навуковых публікацый. За ўклад у развіццё беларускай культуры ўзнагароджаны медалём Францыска Скарыны.*

*Барыс Сачанка (1936–1995), які прыйшоў у 1993 годзе на змену Міхасю Ткачову, таксама нядоўга затрымаўся на новай пасадзе. Прычына тая ж: у ліпені 1995 года пісьменнік памёр. Зрэшты, падпісаць у набор другі том гістарычнай энцыклапедыі Барыс Іванавіч паспеў. Не падвяргаючы асаблівай рэвізіі змест напісаных для яго артыкулаў.*

*У адрозненне ад папярэднікаў – калег па пяры, Сачанка не меў звання народнага. І ўзнагарод зарабіў паменш: 2 ордэны «Знак Пашаны», медаль Францыска Скарыны і два званні лаўрэата – Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа і Літаратурнай прэміі Саюза пісьменнікаў Беларусі імя Мележа.*

*Зрэшты, у пісьменніка засталося галоўнае – яго таленавітыя кнігі, якія і сёння чытаюцца з захапленнем.*

## Успамінаючы трылогію Брэжнева

Кажуць, крытыкаваць калег нядобра і няправільна. Кажуць, журналісты павінны праяўляць карпаратыўную салідарнасць. Кажуць, усе мы не без граху... Шмат чаго кажуць, калі не хочуць чуць праўду.

Вось і я не буду крытыкаваць тых калег, якія прыйшлі ў Беларускую Энцыклапедыю на змену Барысу Сачанку. А проста паразважаю над тым, што напісана на афіцыйным сайце Белэнцыклапедыі.

З 1996-га па 2008 год выдавецтва узначальваў паэт і публіцыст **Генадзь Пашкоў.** Пры ім былі завершаны выпуск 6-томнай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», 18-томнай «Беларускай энцыклапедыі», скончана праца над серыяй гісторыка-дакументальных хронік «Памяць», пабачыла свет 7-томная энцыклапедыя «Рэспубліка Беларусь», энцыклапедыі «Вялікае Княства Літоўскае», «Беларускі фальклор» у 2-х тамах, выдадзены энцыклапедычныя даведнікі «Праваслаўныя храмы Беларусі», «Каталіцкія храмы Беларусі».

У паслужным спісе Пашкова таксама ёсць узнагароды: лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола БССР, прэміі імя Янкі Купалы. Ён – аўтар каля двух дзясяткаў зборнікаў паэзіі, публіцыстыкі і кніг для дзяцей. Але ці роўныя гэтыя кнігі творчасці Броўкі, Шамякіна, Сачанкі? Чытачы самі маюць права параўнаць творы і адказаць на рытарычнае пытанне.

З кастрычніка 2008-га па ліпень 2013 года выдавецтвам кіравала **Таццяна Бялова** – у статусе дырэктара. За якія заслугі яна атрымала такую пасаду? Нават не хочацца разважаць на гэты конт. Скажу толькі: пад яе патранажам былі выдадзены энцыклапедыі «Археалогія Беларусі» ў 2-х тамах, «Лён», «Энцыклапедыя Перамогі. Беларусь – Масква», «Прырода Беларусі», «Вялікае Княства Літоўскае», «Гісторыя беларускай кнігі» у 2-х тамах – пералік можна працягваць яшчэ. Але для разумення карціны, пэўна, хопіць дадаць вось гэтыя выданні: «Энцыклапедыя БФСТ «Дынама», «Энцыклапедыя беларускага хакея», каталогі «Рэспубліка Беларусь. Экспартны патэнцыял», кнігі прадстаўніцкага фармату серыі «Энцыклапедыя рарытэтаў»...

Якія ўзнагароды мае сама Бялова, шчыра кажучы, я не ведаю. І творчасці яе, калі такая насамрэч маецца, таксама не чытала.

Са жніўня 2013-га па чэрвень 2014 года дырэктарам выдавецтва быў нехта **В.Ю.Аляксандраў.** У гэты перыяд былі выдадзены «Ветэрынарная энцыклапедыя» ў 2-х тамах, энцыклапедыі «Гарады і вёскі Беларусі. Мінская вобласць», «Культура Беларусі», «Прырода Беларусі», факсімільнае выданне з каментарыямі «Баркалабаўскі летапіс», фотаальбомы «Мінск вячэрні» і «Прырода захапляе», «Кніжная спадчына Беларусі».

Ну што тут скажаш? Асабіста мяне прырода больш захапляе не на «энцыклапедычных» здымках, а ў жывым выглядзе. Любавацца Мінскам вячэрнім я таксама люблю ў натуры, а не на буклетах, якія прыстала выдаваць турагенцтвам, а не саліднаму дзяржаўнаму выдавецтву.

І нарэшце аб тых, хто ў руля сёння. У кастрычніку 2014 года дырэктарам выдавецтва стаў **Уладзімір Андрыевіч,** былы галоўны рэдактар «Народнай газеты», якая пры ім канчаткова згубіла колішнюю папулярнасць. Сайт выдавецтва падрабязна называе дзясяткі выдадзеных пры ім кніг: энцыклапедыі «Культура Беларусі», «Рэгіёны Беларусі», «Гарады і вёскі Беларусі», «Энцыклапедыя для школьнікаў і студэнтаў», «Вялікая энцыклапедыя Вялікага тэатра Беларусі», даведачныя выданні «Твае сыны, Беларусь. Кавалеры ордэна Славы», «Твае героі, Беларусь. Героі Сацыялістычнай Працы», «Іх імёнамі названы... Вуліцы Мінска», «Твае сыны, Беларусь. Героі Савецкага Саюза»... Безумоўна, падобныя кнігі-даведнікі патрэбны – як навучальныя падручнікі, дапаможная літаратура. Патрыятычная літаратура таксама неабходна, хоць, магчыма, і ў іншым, менш пафасным фармаце. Але вось чытаю я ў пераліку выдадзенага такія назвы: «Адраджэнне. Ад рэабілітацыі да ўстойлівага развіцця» (2016), «Разам. 20 гадоў саюзнаму парламентарызму» (2016). І задаюся пытаннем: ці возьме хто-небудзь у рукі праз наступныя 20 гадоў гэтыя «энцыклапедычныя шэдэўры»? А калі і возьме, то з якой мэтай? Хіба што ў навучанне нашчадкам, як не трэба абыходзіцца з паперай і дзяржаўнымі сродкамі. Нават калі гэтыя сродкі выдзелены з кішэні суседняй дзяржавы.

Менавіта з такой мэтай я ўзяла ў рукі трылогію Леаніда Брэжнева пра Малую зямлю, цаліну і – так-так – вечнае адраджэнне, знойдзеную нядаўна на гарышчы уласнай дачы. І не выкінула ў апошні момант на сметнік, вырашыўшы паказаць падрастаючаму ўнуку, якія дурныя догмы, палітычны канфармізм, прафанацыю прафесіі давялося перажыць нашаму пакаленню. Няўжо гісторыя зноў паўтараецца?

## Замест пасляслоўя

Чытачы, верагодна, звярнулі ўвагу на тое, якія гістарычныя пласты паднялі калектывы першых рэдакцый Беларускай Савецкай Энцыклапедыі (БелСЭ) і на якую дробязь збіліся сённяшнія супрацоўнікі гэтага найгалоўнага выдавецтва краіны. Як абмялела кадравая палітыка – ля вытокаў справы нацыянальнай важнасці стаялі сапраўдныя духоўныя тытаны, а сёння… Што і казаць, усё залежыць ад таленту людзей, іх светапогляду, прафесійнага ўзроўню.

Я не настальгірую па савецкай уладзе. Тым не менш вымушана прызнаць: у той час, калі рэдакцыя Беларускай Савецкай Энцыклапедыі рабіла першыя крокі ў ажыццяўленні важнейшых праектаў, лозунг «кадры вырашаюць усё» быў не пустым гукам. На адказныя пасады падбіраліся людзі, здольныя генерыраваць ідэі, прымаць неардынарныя рашэнні і нават паспрачацца ў крытычных выпадках з той жа уладаю, адстойваючы свае пазіцыі. Тытаны, якія не ператваралі даверанныя караблі ў «тытанікі» і не перасядалі затым на ратавальныя плыты.

Няўжо сёння нельга знайсці такіх тытанаў? Няўжо абмялела кадравая крыніца? Не веру, бо нават наўскідку магу назваць шэраг выдатных паэтаў, пісьменнікаў, у тым ліку з ганаровымі тытуламі, творцаў, якіх добра ведаюць не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі. І не проста ведаюць, але і паважаюць за іх творы – і будуць паважаць і праз 20 гадоў, і праз 100. Менавіта такія волаты павінны стаяць на чале Беларускай Энцыклапедыі.

Напрыканцы хачу нагадаць адзін сюжэт – таксама на энцыклапедычную тэму. 15 гадоў таму тагачасны дырэктар Нацыянальнага архіва Беларусі **Вячаслаў Селяменеў** паказаў мне цікавыя дакументы – мы нават паспрабавалі давесці гісторыю да ведама шырокой грамадскасці. Але сёння не грэх і паўтарыць.

Дык вось: на пачатку 30-х гадоў мінулага стагоддзя ў Беларусі ўжо рабілася спроба выдаць Беларускую савецкую энцыклапедыю ў 10 тамах. 1 красавіка 1934 года нават адбылося «строга сакрэтнае» пасяджэнне Бюро ЦК КП(б)Б па гэтым пытанні. Першы том БелСЭ павінен быў выйсці не пазней кастрычніка 1934 года. Астатнія – за наступныя чатыры гады. У склад рэдкалегіі будучага выдання ўвайшлі 26 чалавек. У тым ліку першы сакратар тагачаснага ЦК рэспублікі **Гікала,** старшыня Саўнаркама **Галадзед**, старшыня ЦВК БССР **Чарвякоў**, старшыня Саюза пісьменнікаў БССР **Клімковіч**, паэт **Якуб Колас**...

Але ўвосень 1934-га першы том не выйшаў. Хоць 450 (!) прыцягнутых аўтараў у тэрмін здалі партыйным рэцэнзентам свае працы. Здагадваецеся, чаму не выйшаў?

Таму што ў СССР на той час пачаліся палітычныя працэсы над «ворагамі народа», у якія сталі паступова трапляць першыя стваральнікі беларускай энцыклапедыі.

Спачатку коней на пераправе, то бок аўтараў, спрабавалі мяняць – замест тых, хто выбыў, як тады казалі. Гранкі з напісанымі імі артыкуламі канфіскоўваліся і знішчаліся. Мабілізаваныя новыя «энцыклапедысты», бачачы, як і куды знікаюць папярэднікі, у паніцы перапісвалі артыкулы з выдадзенай у Маскве Вялікай Савецкай Энцыклапедыі, але таксама траплялі ў ворагі народа.

Скончылася справа тым, што 22 кастрычніка 1937 года, калі першая айчынная энцыклапедыя павінна была ўжо трапіць на паліцы бібліятэк і кнігарняў, выконваючы абавязкі загадчыка аддзела друку і выдавецтваў ЦК КП(б)Б **Буцелін** напісаў дакладную запіску ў ЦК наступнага зместу: «*Каля двух гадоў таму пастановай Бюро ЦК КП(б)Б і СНК БССР было вырашана выдаць «Беларускую Савецкую Энцыклапедыю». З гэтай мэтай пры Акадэміі Навук БССР была створана галоўная рэдакцыя. У складзе рэдакцыі, вядома, апынуліся ворагі народа (Сурта і інш.). За два гады працы падрыхтаваны да друку толькі першы том энцыклапедыі, зараз жа ідзе канфіскацыя з тома артыкулаў, напісаных ворагамі народа, і артыкулаў, прысвечаных ворагам народа. Зам. галоўнага рэдактара энцыклапедыі, акадэмік Вольфсан просіць для далейшай падрыхтоўкі выпуску энцыклапедыі і канчатковай рэдакцыі першага тома зацвердзіць новы склад галоўнай рэдакцыі. Кандыдатаў у склад рэдакцыі ён не вылучае.*

*Аддзел друку і выдавецтваў лічыць, што ў дадзены час неабходна спыніць далейшую працу па выданні БелСЭ і зацвердзіць прадстаўлены па гэтым пытанні праект рашэння Бюро ЦК КП(б)Б».*

10 лістапада 1937 года, адразу пасля ўрачыстасцяў у гонар юбілею Кастрычніцкай рэвалюцыі, Бюро ЦК КП(б)Б на чарговым «строга сакрэтным» пасяджэнні прыняло такое ж сакрэтнае рашэнне: «*У сувязі з тым, што выданне Беларускага Савецкай Энцыклапедыі было дазволена шкоднікамі і шпіёнамі* (арфаграфію аўтара захоўваю. – **Л.С.**), *якія прабраліся да кіраўніцтва БССР з мэтай падману беларускага народа і растранжырвання дзяржаўных сродкаў, бюро ЦК КП(б)Б пастанаўляе: Спыніць працы па выданні энцыклапедыі, тэхнічна-рэдакцыйны апарат распусціць. Даручыць СНК БССР стварыць ліквідацыйную камісію для ліквідацыі ўсіх спраў па выданні Беларускага Савецкай Энцыклапедыі. Усю працу камісіі скончыць да 1 снежня 1937 г.*».

Большасць аўтараў і куратараў беларускай энцыклапедыі, якая так і не пабачыла свет, былі расстраляны. Ці ведаў пра гэта ў 1967 годзе Пятрусь Броўка, сказаць не магу. Таму што сама не ведаю дакладнага адказу.

**Людміла СЯЛІЦКАЯ.**



ВНИМАНИЕ!

## За американской визой в Киев, Варшаву, Вильнюс

*Посольство США в Москве и консульство в Санкт-Петербурге отменяют прием заявлений на получение виз от граждан Республики Беларусь. Об этом сообщает пресс-служба посольства.*

«Собеседования для граждан Республики Беларусь, подавших заявление на неиммиграционную визу США и уже оплативших консульский сбор, будут переназначены», – сказано в сообщении.

Гражданам нашей страны рекомендуют обратиться для прохождения собеседований на получение неиммиграционных виз в посольства США в Варшаве, Киеве или Вильнюсе.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

## Кіроўца таксі быў п'яны!

У мінулым нумары мы расказвалі пра жудаснае ДТЗ, якое здарылася ў Мінску 17 жніўня ў 7.20 раніцы на скрыжаванні сталічнай вуліцы Мірашнічэнкі і МКАД. Таксі з пасажырамі ўрэзалася ў рэйсавы аўтобус. Загінулі хлопец і дзяўчына.

Як паведаміла афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта Беларусі **Юлія Ганчарова,** устаноўлена, што з 2.00 17 жніўня кіроўца таксі перастаў прымаць замовы і адпачываў са сваімі знаёмымі, якія і былі пасажырамі ў момант ДТЗ.

Акрамя таго, у следства ёсць відэазапіс непасрэдна моманту сутыкнення, на якім відаць, што яно здарылася без тармажэння.

Атрыманы і далучаны да матэрыялаў справы звесткі аб тым, што ступень алкагольнага ап'янення кіроўцы была 1,54 праміле.

Кіроўца і пасажыр, які выжыў, застаюцца ў рэанімацыі. Кіроўца ў коме.

ЭНТУЗІЯСТЫ

## Месца, дзе жывуць цуды

Ужо трэці год у Гродне дзейнічае этнакрама **"Цудоўня"**, якая за невялікі прамежак часу паспела ператварыцца ў знакавае месца на карце горада. Пра гісторыю гэтай культурнай пляцоўкі на базе крамы мы паразмаўлялі з **Андрэем Несцяровічам,** які сумесна з жонкай Надзеяй з'яўляецца яе заснавальнікам і ўладальнікам.



Андрэй, тэхнік-электрык паводле адукацыі, на пачатку сваёй працоўнай дзейнасці займаўся рамонтам тэлефонаў, захапляючыся сярэднявечнай рэканструкцыяй. Пасля вяртання з войска за некалькі гадоў аб'ехаў значную частку Расіі, удзельнічаючы ў разнастайных рэканструктарскіх фестывалях. Яго ўразіла, наколькі расіяне не толькі шануюць сваю гісторыю, культуру, традыцыі, але і актыўна папулярызуюць яе сярод звычайнага насельніцтва. Таму па вяртанні на Радзіму Андрэй марыў пачаць падобную дзейнасць, пажадана звязаную з рамёствамі. Спачатку ён бачыў свой праект у форме пляцоўкі для рэканструктараў, але калі стала зразумелым, што такая ідэя сама па сабе нежыццяздольная, планы прыйшлося падкарэкціраваць. Пад уплывам жонкі першапачатковая ідэя змяніла напаўненне.

**– Адкуль такая прыгожая назва і што яна значыць?**

– Назву "Цудоўня" прыдумала мая жонка Надзейка. Думала доўга. У нас у краме цудоўныя рэчы, гэта цудоўнае месца, і само яго з'яўленне – цуд. Само гэтае слова не мае эквівалентаў у іншых мовах. Фактычна гэта месца, дзе жывуць цуды.

**– Разглядалі праект як працу ці толькі як захапленне?**

– З самага пачатку гэта задумвалася як будучая праца, таму што захапленне, якое не прыносіць табе сродкаў для існавання, само па сабе нежыццяздольнае. Інакш прыйдзецца займацца чымсьці яшчэ, каб зарабляць грошы, што будзе адбіраць у цябе час ад любімага занятку.

**– Хто аказаў уплыў на з'яўленне вашага праекта?**

– Лёс пазнаёміў мяне з Уладзімірам Яроменкам, на той час гаспадаром інтэрнэт-крамы "33 камоды". У яго была мара стварыць інтэрнэт-радыё. І мы пачалі рабіць радыё "Пірат". А потым я патрапіў на занятк "Мова нанова", дзе сустрэўся з іх вядучым Антосем Янкоўскім, гаспадаром крамы "Кубік". Янкоўскі і Яроменка ўжо былі знаёмыя. І неяк Яроменка мне кажа: "У нас тут з Антосем з'явілася ідэя адкрыць сумесную краму. Давай будзеш трэцім". Такім чынам я ўвязаўся ў кампанію. У нас была ідэя – тры крамы пад адным дахам, каб менш плаціць за арэнду і адзін аднаго падтрымліваць. Усё ж утрох лягчэй. Планавалася, што да пачатку рэалізацыі праекта пройдзе яшчэ некалькі месяцаў, але літаральна праз некалькі дзён тэлефануе Яроменка і кажа: "Ёсць памяшканне, і трэба цяпер пачынаць, або нічога не будзе".

**– Напачатку было цяжка?**

– Пачатак быў жудасны. Мы з жонкай часам начавалі ў краме. Неабходна было рабіць рамонт, да таго ж у мяне не было ніякага прадпрымальніцкага досведу, трэба было разбірацца з папяровай цяганінай.

Каб мець грошы на арэнду, я паралельна працаваў у другой фірме, падрабляў зборкай мэблі, дробнымі замовамі, Надзя падрабляла вычыткай тэкстаў. Усё ішло на краму. З глыбокіх мінусаў было цяжка вылазіць, але мы вылезлі.

Адначасова трэба было дамаўляцца з вытворцамі. Здаралася, што перамовы зацягваліся да позняй ночы.

Мы па ўсёй краіне бадзяліся з заплечнікамі: з Брэста, Мінска, Бабруйска, Слоніма вазілі кераміку, тэкстыль...

**– Якім прынцыпам вы кіруецеся цяпер у стасунках з пакупнікамі?**

– Я часта кажу: вы тут не пакупнікі, а мы не прадаўцы, вы тут госці, а мы гаспадары. Адчувайце сябе як госці, але не забывайцеся, што вы менавіта ў гасцях. І калі ты ходзіш з чалавекам па краме, расказваеш яму дзве гадзіны нешта, бачыш яго палаючыя вочы, нават калі ён выходзіць, нічога не набыўшы, застаецца адчуванне, што дзень прайшоў недарма: чалавек штосьці адсюль вынес, хай не з сабой, але ў сабе.

**– А як узнікла ідэя правядзення культурніцкіх мерапрыемстваў?**

– У нас з самага пачатку была мэта паказаць, расказаць і даць магчымасць знесці ад нас нешта сабе або ў сабе: веды ці нейкі прадмет. "Цудоўня" нароўні сумяшчае два накірункі: з аднаго боку, гэта крама як рамесніцкая пляцоўка, фактычна інтэрактыўны музейчык, таму што большасць прадметаў, што ў нас выстаўлены, маюць карані ў гісторыі больш ці менш наближанай да нашага часу, з другога – і імпрэзавая культурніцка-адукацыйная частка. Мы круцімся вакол усяго, што тычыцца культуры і не тычыцца палітыкі ці нейкіх рэлігійных спрэчак. Маё перакананне: палітыка – палітыкай, культура – культурай. Асабіста я займаюся культурай, у палітычны вір не сунуся.

**– Якое мерапрыемства было самым першым?**

– Сустрэча з Віктарам Кірэевым і яго выступленне па тэме "Горадня на старых паштоўках". А хутка адбыўся канцэрт гурта "Вочы".

**– А якія з праведзеных мерапрыемстваў найбольш запомніліся?**

– Вядома ж, тая імпрэза з Кірэевым. Запомнілася "Гадзіна Зямлі", калі ў нас было вельмі шмат народу і паказвалі фрагмент казкі "Маленькі прынц". Са свайго боку, імкнуліся паказаць, што мы, беларусы, па-свойму ўдзельнічаем у сусветнай акцыі. З адбіткамі нашай культуры.

Запомнілася адкрыццё кніжнай секцыі. Нехта з журналістаў акрэсліў яго як "шасцігадзінны літаратурны марафон". У адзін дзень было некалькі кніжных прэзентацый з канцэртам. Гэта было вельмі цёплае, утульнае, светлае свята, правесці якое нам дазволілі толькі з чацвёртага разу.

Мінулай зімой мы ладзілі "Тэатральную пятніцу" па ідэі нашай сяброўкі Надзеі Крапівінай. Яна кожную пятніцу рабіла відэапрагляд сусветна вядомых відэаспектакляў.

А пачыналі мы з сустрэч з беларускімі гісторыкамі – "Гістарычных аўторкаў", якія доўжыліся больш як паўгода, штотыдзень без перапынкаў.

**– Якія планы на будучыню?**

– Хочацца адкрыць кавярню, пякарню, каб былі свежыя булкі, свежаспечаны жытні хлеб – ён касмічны на смак. Або аб'яднаць у адно кнігарню, кавярню і музычную секцыю. Падобныя пляцоўкі, як у нас, хацелася б мець не толькі ў Гродне, але і ў іншых гарадах, невялікіх мястэчках.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК.**

# ЭЛЕКТРОННЫЯ ЦЫГАРЭТЫ

## Міфы і рэальнасць

*Вакол тэмы электронных парагенератараў (у народзе – вэйпінг) ходзіць шмат чуткаў і спрэчак. Адны кажуць, што гэта ледзьве не карысна, а, напрыклад, беларускія дзяржаўныя медыцынскія структуры спрабуюць стварыць вакол гэтай тэмы арэол жудасці, намякаючы на тое, што не варта адмаўляцца ад традыцыйных цыгарэт. Гэта не дзіўна, бо дзяржаўнае тытунёвае прадпрыемства «Нёман» на 2015 год займала 79,9% рынку Беларусі, а афіцыйны чысты прыбытак за 2016 год складае 93.065 беларускіх рублёў, што ў 2,6 раза больш, чым у 2015-м, калі адпаведны паказчык склаў 35.412 беларускіх рублёў. Таму мы сабралі асноўныя меркаванні наконт электронных парагенератараў (далей – ЭП), каб нарэшце вызначыць, што праўда, а што міф.*



### 1. ЭП больш шкодныя за цыгарэты

Гэта міф. Яшчэ ў 2015 годзе ў Брытаніі па замове Міністэрства аховы здароўя былі праведзены даследаванні на дадзеную тэму. Вынік паказаў, што ЭП на 95% больш бяспечныя за цыгарэты. Аднак некаторыя даследчыкі палітыкі тытуню, як Кенэт Уорнэт з Мічыганскага ўніверсітэта, заяўлялі, што з практычнага пункту гледжання лічба крыху меншая – каля 80–85%, але факт застаецца фактам: ЭП нашмат бяспечней для здароўя, чым цыгарэты.

### 2. Нікацін – асноўны шкодны элемент, таму розніцы паміж ЭП і цыгарэтамі няма

Таксама міф. Па-першае, нікацін не прызнаны канцэрагенам (рэчывам, якое выклікае ракавыя пухліны). Аднак вучоныя падкрэсліваюць, што пры гэтым нельга лічыць нікацін абсалютна бяспечным рэчывам. Яго празмернае ўжыванне спрыяе развіццю гіпертаніі, павелічэнню сардэчных скарачэнняў і выклікае шэраг лакальных раздражняльных уздзеянняў на арганізм. Але смяротных захворванняў нікацін не выклікае. Вучоныя параўноўваюць яго па шкоднасці з кавай. А вось асноўная шкода цыгарэт не ў нікаціне, а ў шэрагу канцэрагенаў і самім працэсе гарэння.

### 3. ЭП абсалютна бяспечныя для здароўя

Гэта міф. Няхай яны і на 80–95% бяспечней за цыгарэты, але пэўную небяспеку ўсё ж такі нясуць. У пары ЭП заўважана большае ўтрыманне цяжкіх металаў, чым у дыме звычайных цыгарэт. Калі верыць дакладу вядомага даследчыка вэйпінгу доктара Канстанцінаса Фарсалінаса, супрацоўніка грэчаскага Цэнтра кардыялагічнай хірургіі імя Ананіса, гэтыя паказчыкі не перавышаюць норм для медыцынскіх інгалятараў. Таксама даследаванні паказалі наяўнасць такіх таксінаў, як фармальдэгід і ацэтальдэгід, але ж іх утрыманне нашмат меншае ў параўнанні са звычайнымі цыгарэтамі. Але большасць даследаванняў паказала, што асноўную небяспеку нясуць рэчывы дыяцэтыл і ацэтыл прапіяніл, якія часта ўтрымліваюцца ў араматызатарах для ЭП-вадкасцяў, што паказвае неабходнасць кантролю іх якасці. Таму трэба адказна падыходзіць да выбару араматызатараў. Можна сказаць цвёрда, што дзецям і тым, хто не паліць, лепш не забаўляцца з ЭП.

### 4. Пара ад ЭП небяспечная для навакольных

Міф. Пра гэта кажа нават даследаванне British American Tobacoo. У 2015 годзе ў выніку эксперымента было даказана, што пара ад ЭП не аказвае таксічнага эфекту на клеткі лёгкіх. Больш раннія даследаванні іншых крыніц паказалі, што адзіны залішні элемент, які навакольныя могуць удыхнуць разам з парай, – зусім невялікая доза нікаціна, якая не выклікае праблем са здароўем. Астатняе – у межах нормы.

### 5. Вэйпінг не дапамагае кінуць паліць

Міф. У 2015 годзе на канферэнцыі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя вышэйзгаданы доктар Канстанцінас Фарсалінас прадставіў даклад наконт ЭП. Даследаванне ахапіла каля 20 тысяч чалавек. Вынік вельмі пазітыўны: 81% удзельнікаў кінулі паліць з дапамогай вэйпінгу, прытым што большая частка гэта зрабіла на працягу першага месяца даследавання. Іншыя крыніцы таксама гэта пацвярджаюць. У 2016 годзе шэраг экспертаў з Універсітэта Парт, Цэнтра хірургіі імя Анасіса, Французскага нацыянальнага даследчага інстытута аховы здароўя і медыцынскіх даследаванняў зрабіў аналіз дадзеных аднаго з самых вялікіх сацыяльных апытанняў наконт тытуню і ЭП у Еўрапейскім Саюзе, якое было праведзена ў 2014 годзе. Вынікі наступныя:

Выкарыстанне вэйпінгу характэрна для тых, хто кінуў паліць.

Тыя, хто не паліць, рэдка карыстаюцца ЭП.

Некурцы рэдка выкарыстоўваюць вадкасці з нікацінам.

Больш за 30% апытаных пагаджаюцца, што ЭП дапамаглі кінуць паліць ці скараціць ужыванне цыгарэт.

Таму можна ўпэўнена казаць, што вэйпінг дапамагае кінуць паліць.

* * *

Час пакажа, але на дадзены момант большасць кампетэнтных міжнародных даследаванняў даказваюць галоўны факт: вэйпінг нашмат лепш за цыгарэты і нясе непараўнальна меншую шкоду, а вакол аматараў ЭП можна дыхаць спакойна. Але гэта не азначае, што злоўжыванне і выкарыстанне ЭП дзецьмі бяспечна і неабходна. Кожны сам робіць свой выбар, але пакуль вэйпінг – нейлепшая альтэрнатыва для курцоў, але не забава для тых, хто не паліць.

**Багдан САКАЛОЎ.**

ДЛЯ ВЯСЁЛАЙ КАМПАНІІ

## Колькі ў небе зор!

*(Беларускі вальс)*

Словы і музыка А.Шыдлоўскага.



Колькі ў небе зор – цяжка палічыць,
Толькі з іх адна найярчэй гарыць.
Гэта ты, мая зорка ясная,
Ты – любоў мая непагасная. } 2 разы

Ў працы і ў жыцці добра нам з табой
Марыць і любіць з песняй маладой.
Дзе так добра жыць, дзе такі прастор!
Шчасця больш у нас, як на небе зор. } 2 разы

Край шырокі наш, мірны, дарагі!
І бягуць удаль светлыя шляхі.
Мне з табой па іх хочацца ісці
І дзяліць усё разам у жыцці. } 2 разы

ВЫСТАВА

## Таямніцы першадрукароў



Гродна далучыўся да святкавання 500-годдзя беларускага кнігадрукавання вялікай выставай "Таямніцы старых пераплётаў" у Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі.

*Экспаніруюцца выданні канца XV – пачатку XVI стагоддзя, якія мог бачыць Францыск Скарына, калі прыехаў вучыцца ў Кракаўскі ўніверсітэт, або пазней, падчас навучання ў Падуанскім універсітэце, што ў Італіі. Прадстаўлены кнігі аўтараў, якія былі сучаснікамі нашага першадрукара і з якімі ён быў знаёмы асабіста. Да такіх належаў Ян Глагоўскі, прафесар Кракаўскага ўніверсітэта.*

Сабраныя экспанаты знаёмяць з гісторыяй узнікнення і распаўсюджвання кнігадрукавання ў Заходняй Еўропе, Каралеўстве Польскім і Вялікім Княстве Літоўскім, са спосабамі вырабу паперы, стварэння элементаў афармлення кнігі. Прадстаўленыя кнігі аздоблены шыкоўнымі пераплётамі, гравіраванымі тытульнымі лістамі, тонка выкананымі гравюрамі.

Самы старажытны сярод экспанаваных твораў надрукаваны ў 1493 годзе. Ён уваходзіць у канвалют, пад адной вокладкай якога пераплецены адразу тры кнігі (інкунабулы), надрукаваныя з моманту з'яўлення вынаходніцтва Іагана Гутэнберга да 1500 года ўключна.

Арыенцірам для Францыска Скарыны выступалі так званыя "альдыны", дзве з якіх прадстаўлены на выставе, – кнігі выдавецтва Альда Мануцыя, самага знакамітага друкара эпохі ранняга Рэнесансу. Менавіта ён пачаў першым друкаваць кнігі невялікага памеру, што змяншала іх кошт і рабіла даступнымі для шырокай колькасці людзей. Ён жа пачаў нумараваць старонкі і ўвёў шрыфт курсіў. Альд Мануцый таксама з'яўляецца выдаўцом першага сусветнага бестселера, якім стала выдадзеная ў 1501 годзе кніга італьянскіх вершаў Франчэска Пятраркі. Яе тыраж дасягнуў лічбы 100 тысяч экземпляраў.

Да ліку каштоўных выданняў, прадстаўленых у Гродзенскім музеі, належыць "Дэкамерон" Бакачыа, падручнік, напісаны спаленым за ерэтычныя погляды Саванаролай, "95 тэзісаў" Марціна Лютэра – ідэйнага начынальніка Рэфармацыі, 500-годдзе якой будзе адзначацца 31 кастрычніка. Захавалася ўзгадка пра сустрэчу Лютэра з доктарам медыцыны Францыскам, якім, хутчэй за ўсё, быў беларускі першадрукар. Увогуле на выставе хапае выданняў, занесеных каталіцкай царквой у "Спіс забароненых кніг". Маецца тут і фактычна першы каталог па нумізматыцы, створаны сябрам Рафаэля Санці Андрэа Фульвія. Гэта кніга 1517 года са 190 ксілагравюрамі (і гэта пры аб'ёме кнігі ўсяго ў 228 старонак!), што для свайго часу было сапраўдным адкрыццём.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК.**
*Гродна.*

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## Ён глядзіць на свет крытычным розумам

Вітражамі мудрасці можна назваць чарговы зборнік Яўгена Гучка "У родным краі", які выйшаў нядаўна ў Інстытуце беларускай гісторыі і культуры.

Як і ў папярэдніх яго кніжках, у гэтым зборніку – бачанне свету крытычным розумам, яднанне з прыродай, сацыяльная абвостранасць, маральны і эстэтычны зарад. Гэта выхоўвае ў душах людзей прыгожае светаўспрыманне, успрыманне праўды і справядлівасці, а таксама ўмацоўвае пачуццё нацыянальнай годнасці ў свядомасці беларусаў.

Нельга адоранаму чалавеку ганарліва замыкацца ў сваёй выключнасці. І паэт не засяроджваецца на сваім асабістым "я". Яго "я" – вельмі беларускае, зборнае, супольнае. Відаць, таму многія радкі Я.Гучка запамінаюцца і іх хочацца паказаць іншым.

Кожны творца чакае зычлівай ацэнкі яго справы. Гэта дае яму новыя сілы і задумы, стымулюе для далейшай творчасці. Няхай Яўгену Гучку Бог і надалей дае творчага натхнення і плёну ў перадачы людзям праўды, высакароднасці, харастава і шчырасці, бо яны – катэгорыі Боскія! Паэт робіць вялікую стваральную працу, спрыяе маральнаму, эстэтычнаму і духоўнаму ўдасканальванню людзей і грамадства.

**Лідзія ЗІЗА,**
**былы рэдактар часопіса "Весці АН Беларусі", гуманітарная серыя.**

ХОБІ

# Аўтабаі пад Гродна

*19 жніўня ў маёнтку Каробчыцы спякотным было не толькі надвор'е, але і атмасфера, якая панавала тут. Шматлікія гледачы сабраліся, каб паглядзець на сапраўднае відовішча – бітву машын у межах IV этапу Кубка гарадоў Беларусі па аўтабаях 2017.*

Вадзіцелі з Гродна, Слоніма, Мінска, Баранавічаў і Пінска змагаліся ў двух асноўных класах: "База", дзе абаронены толькі вадзіцель, і "База ПРА", дзе каркас ахоўвае яшчэ і маторны адсек. Прызавы фонд спаборніцтва склаў 2000 рублёў.

У класе "База ПРА" не было роўных гродзенцу Мікалаю Журовічу на яго неверагодным чынам, быццам з галівудскіх фільмаў, перарobленым "Рэно".

А ў катэгорыі "База" да апошняга здавалася, што перамогу на белай "Волзе" атрымае Аляксандр Салейка са Слоніма. Машыну ўпрыгожвала імя "Вольга". Сланімчанін раз за разам атакаваў чорную "Волгу" пінчука Валерыя Шайтанава. Раптам рухавік машыны Салейкі змоўк. Аўто пінчука таксама не варушылася: як высветлілася, два пярэднія колы ў яго былі прабіты. У выніку ўсё вырашыла ўмяшальніцтва суддзяў. Машыны выцягнулі на цэнтр рынга і, згодна з умовамі, лепшым стаў той, хто пакінуў месца спаборніцтва сваім ходам. Такім чынам перамога адправілася ў Пінск.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК.**



САЛІДАРНАСЦЬ



# Дапаможам Ваню!

*Ваню Анішчанку з Наваполацка амаль тры гады. Да пяцімесячнага ўзросту ён рос цалкам здаровым дзіцём. А потым у хлопчыка ўзніклі сур'ёзныя праблемы са здароўем. Бацькам давялося абысці мноства ўрачэбных кабінетаў. Сёння сям'я Анішчанка змагаецца за здароўе свайго дзіцяці. Хлопчык мае патрэбу ў лячэнні ў еўрапейскай клініцы.*

– *Ваня нарадзіўся ў тэрмін і здаровым, ён трэцяе дзіця ў нашай сям'і,* – сказала «Народнай Волі» мама Вані Юлія Анішчанка. – *Медыкі праводзілі агляды, ніякіх праблем не было. Ванечка рос, набіраў вагу і развіваўся. Мы былі шчаслівыя...*

Але ў 5 месяцаў у хлопчыка пачаліся сутаргі. Ваню паклалі спачатку ў наваполацкую, а потым перавялі ў абласную бальніцу, дзе пасля неабходных абследаванняў было пачата лячэнне супрацьсутаргавымі прэпаратамі.

– *Лекі не дапамагалі, і праз некаторы час нам зноў прыйшлося легчы ў бальніцу,* – успамінае мама хлопчыка. – *Узнікла падазрэнне, што ў Вані страшны дыягназ – сіндром Вэста. Пры гэтым захворванні ў дзіцяці частыя эпілептычныя прыступы, якія не паддаюцца медыкаментознаму лячэнню. Таксама ёсць затрымка ў развіцці. Пасля гэтага мы пачалі лячыцца ў навукова-практычным цэнтры «Маці і дзіця» ў Мінску.*

*Да 8–9 месяцаў Ваня яшчэ развіваўся як належыць. Калі яму быў годзік, здарыўся цяжкі прыступ. Каля двух месяцаў мы аднаўляліся: патроху ён пачаў садзіцца, пераварочвацца, поўзаць, уставаць. Нягледзячы на тое, што мы дадалі прэпараты, у два годзікі сітуацыя паўтарылася. Наш доктар прапанавала гарманальную тэрапію.*

Пры правільным падборы прэпаратаў у палове выпадкаў атрымліваецца дамагчыся поўнага пазбаўлення дзіцяці ад прыступаў. Позняя дыягностыка і няправільны выбар лекаў прыводзяць да страты часу і пагаршаюць прагноз.

За два гады Ваню прыйшлося пабываць у некалькіх бальніцах і медыцынскіх цэнтрах. Урачы выявілі ў хлопчыка эпілепсію з частымі прыпадкамі, парушэннем псіхамаўленчага і маторнага развіцця. За перыяд пасля ўзнікнення хваробы Ваню прыйшлося прымаць цяжкія медыкаменты: больш за дзевяць прэпаратаў.

Лекі даводзілася набываць у Еўропе і Расіі.

**– А прычыны ўзнікнення хваробы высветлілі?**

– *У Мінску патлумачылі, што хвароба выклікана сукупнасцю фактараў. Мы прайшлі вялікі шлях: ад жаху да прыняцця сітуацыі. Можна вінаваціць сябе або кагосьці, а можна шукаць выйсце. Страшны дыягназ не выключае магчымасці адчуваць шчасце. Мы вельмі любім сына. І стараемся напоўніць яго дзень максімальна радаснымі падзеямі: цацкі, купанне, танцы, песні, маленькія і вялікія падарожжы, чытанне кніжак і многае іншае.*

Каля паўгода ў Вані на фоне гарманальнай тэрапіі назіралася рэмісія (паслабленне сімптомаў хваробы). З'явілася надзея на поўнае аднаўленне, але летам прыступ адбыўся зноў.

– *Я вельмі ўдзячна нашым урачам і нікога не хачу пакрыўдзіць,* – кажа Юлія Анішчанка. – *Але ў Іспаніі больш магчымасцяў абследаваць майго сына. Будзе разгледжана магчымасць прыёму новых медыкаментаў, якія з'явіліся ў Еўропе за апошні год, ці хірургічнага лячэння.*

**– Колькі каштуе лячэнне ў Іспаніі?**

– *Папярэдні кошт нам выстаўлены на 14,33 тысячы еўра. Плюс віза, дарожныя выдаткі, арэнда жылля і гэтак далей. У Барселоне неабходна быць два тыдні, з якіх сем дзён – абследаванне ў стацыянары. Потым тыдзень рыхтуюцца рэкамендацыі ўрача.*

*Пра клініку мы даведаліся яшчэ вясной, калі была рэмісія. І да апошняга спадзяваліся, што ўсё пройдзе, таму нікуды ехаць не збіраліся. Але сітуацыя змянілася. Лячэнне за мяжой, якое дазволіць сыну жыць без болю, нам неабходна. Таму спадзяёмся, што ўдасца сабраць патрэбную суму!*

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

ДА ВЕДАМА

## Падтрымаць Ваню Анішчанку з Наваполацка можа любы жадаючы

Распачаты збор грашовых сродкаў на лячэнне, рэабілітацыю і куплю медыкаментаў.

Дабрачынныя рахункі адкрыты ў філіяле 214 ААТ «АСБ Беларусбанк» – г.Наваполацк, вул.Дружбы, 4; УНП 300231837; МФА AKBBBY21214:

– беларускія рублі – транзітны рахунак BY27AKBB38193821006052100000 на дабрачынны рахунак BY70AKBB31340000055612120214 у філіяле 214 / Аперацыйная служба, дата заканчэння дзеяння дагавора дабрачыннага рахунку 2022/07/31;

– долары ЗША – транзітны рахунак BY31AKBB38193821214082100000 на дабрачынны рахунак BY55AKBB31340000055622120214 у філіяле 214 / Аперацыйная служба, дата заканчэння дзеяння дагавора дабрачыннага рахунку 2022/07/31;

– еўра – транзітны рахунак BY31AKBB38193821214082100000 на дабрачынны рахунак BY25AKBB31340000055642120214 у філіяле 214 / Аперацыйная служба, дата заканчэння дзеяння дагавора дабрачыннага рахунку 2022/07/31;

– расійскія рублі – транзітны рахунак BY31AKBB38193821214082100000 на дабрачынны рахунак BY40AKBB31340000055632120214 у філіяле 214 / Аперацыйная служба, дата заканчэння дзеяння дагавора дабрачыннага рахунку 2022/07/31.

Прызначэнне плацяжу: для залічэння на дабрачынны рахунак на імя Анішчанка Юліі Уладзіміраўны для лячэння, рэабілітацыі і куплі медыкаментаў для Анішчанкі Івана Сяргеевіча.

Ажыццявіць дабрачынны плацеж можна як ва ўстановах банка, так і з дапамогай паслугі «Адвольны плацеж (плацеж па рэквізітах)» у інфакіёсках "Інтэрнэт-банкінгу" і "М-банкінгу".

Проста папоўніць баланс МТС: (+3753) 3691-13-65.

Дадатковая інфармацыя аб атрымальніку сродкаў: **(+37529) 711-48-98.**




УЧЕНЫЕ РЕКОМЕНДУЮТ

## Почему кочаны не завязываются

***Летом на капусте я обнаружил гусениц длиной около 1 см, по цвету – зеленые, очень подвижные. Побеспокоил их – начали быстро извиваться и падать с листьев, повисая на паутине. Знакомые говорят, что это гусеницы капустной моли. Они проникают в сердечко растений и поедают верхушечную почку – кочан не завязывается.***

***Что нужно делать, чтобы их не было на моем участке?***

**Антон ВАХИРЕВ.**

*г.Лиозно.*

Предлагаем профилактические и защитные меры:

1.Осенью и ранней весной уничтожьте все сорняки и растительные остатки, на которых могут зимовать куколки моли. Обязательно перекапывайте почву.

2.При появлении первых гусениц проведите 2–3 обработки растений настоями полыни или ботвы картофеля.

3.При высокой численности гусениц постарайтесь провести 2-кратное опрыскивание одним из следующих биопрепаратов: битоксибациллин (40–50 г на 10 л воды), дендробациллин (20–30 г на 10 л воды), лепидоцид (20–30 г на 10 л воды).

4.Если численность вредителей нарастает и вы можете потерять урожай, не остается ничего другого, как применить 1–2 из следующих инсектицидов: кинмикс (2,5 мл на 10 л воды), биорин (10 мл на 10 л воды), фас (5 г на 10 л воды), суми-альфа (норма та же), фьюри (1 мл на 10 л воды), зета (1 таблетка на 10 л воды), Инта-Вир (норма та же). Препараты фьюри, зета и Инта-Вир можно использовать два раза за сезон, остальные – только однократно. Пожалуйста, запомните: все эти препараты можно применять только на капусте. На репе, брюкве и редисе вообще все химические обработки исключаются.

ОГОРЧАЕМСЯ НЕУДАЧЕЙ

## Язвочки на огурцах

***Огурцы выращиваю в теплице. Казалось бы, урожаем я должна быть довольна, но не тут-то было: на плодах появляются язвочки бурого цвета с выделением жидкости. Такие огурцы непригодны к употреблению. Есть подозрение, что это бурая пятнистость. Так ли это? Что делать?***

**Зинаида ВАСИЛЬЧЕНКО.**

*г.Борисов.*

Вы не ошиблись. Действительно, это оливковая, то есть бурая, пятнистость плодов. Она появляется при поливе холодной водой, высокой влажности воздуха и частом снижении температуры днем и ночью до 10–13 градусов.

Меры борьбы следующие. При первых признаках заболевания необходимо прекратить поливы сроком на 5–6 дней, проводить в теплые дни проветривание, то есть открыть все форточки, двери или с грядки снять пленку. В прохладный же период, наоборот, дополнительно закрыть, чтобы поднять температуру в зоне растений днем до 20–25°С, а ночью хотя бы до 18–20°С.

Плоды и растения обрабатывают 1%-ным раствором бордоской жидкости или раствором поликарбацина, хлорокиси меди (на 10 л воды 1 ст. ложка поликарбацина или хлорокиси меди, к любому раствору добавляют 1 ст. ложку жидкого мыла). Опрыскивают растения два раза с интервалом 5–6 дней, до 11 часов в теплую погоду, только из опрыскивателя, а не из лейки и не веничком. Сразу после опрыскивания растения подсушивают – в теплое время открывают с одной стороны форточки.

ДЕЛИМСЯ ОПЫТОМ



## Лето подходит к концу, а работы хоть отбавляй

В августе я не ослабляю внимания к колорадскому жуку, систематически собирая его личинки на картофеле. Иногда на листьях картофеля вижу бледную каемку, которая постепенно буреет, – признак нехватки калия. Это часто случается на свежеизвесткованных участках. В таком случае подкармливаю растения картофеля золой (1 стакан на погонный метр) или сернокислым калием 20–30 г на ту же площадь. За 7–10 дней до уборки скашиваю ботву картофеля, это способствует созреванию клубней и утолщению кожуры.

Для лучшего созревания лука и чеснока прекращаю поливы, а если постоянно идет дождь, сооружаю над грядкой с луком и чесноком крышу, поставив предварительно дуги и накинув пленку. Пленку до земли не опускаю, а закрепляю так, чтобы снизу проветривалось.

Яровой чеснок только начинает набирать силу, продолжаю его поливать, подкармливать комплексными удобрениями. Из простых удобрений использую калимагнезию и суперфосфат по 1 столовой ложке на 1 кв. метр.

По мере уборки всех овощных культур собираю ботву и закладываю в компостную кучу. Ботву от больных растений закладываю в отдельный компост. Большое количество растительных остатков, разбросанных по участку, особенно после картофеля, способствует размножению мышей. Поэтому в конце августа перелопачиваю компостную кучу, удаляю с ее поверхности сорняки.

**Вячеслав СУББОТКА, садовод-любитель.**

*г.Миоры.*

СЕМЕЙНАЯ ФЕРМА

## Нутрии любят свежий воздух и воду

***Хочу купить парочку нутрий. Да вот проблема: не знаю, где и как их надо содержать?***

**Михаил БУШИЛО.** *Браславский район.*

Летом нутрий лучше всего держать на свежем воздухе. Если есть возможность купаться и доступна тень, животные хорошо переносят жару до 35–40°С.

Нутрий можно выращивать и без воды, но для получения более качественных шкурок за месяц до убоя надо дать животным возможность мыться и приводить в порядок волосяной покров.

В зависимости от метода случки выбирают и способ содержания нутрий. Животных содержат в клетках, загонах, вольерах. Клетки и загоны делают из сетки, дерева, металла (чтобы животные не грызли деревянные части, их обивают жестью). Старших самок лучше содержать и случать индивидуально. Для гнезда в клетке нутрии нужно 0,5–0,7 $м^2$, для движения – 1,2–1,4 $м^2$.

При групповом содержании в одну клетку помещают проверенного самца и 3–4 самки, которые там же могут рожать и выкармливать малышей. Желательно устанавливать в клетке коробки для гнезда каждому животному. Для молодой самки нужно 0,5 кв. м площади, для взрослой – 2–3 кв. метра.

Пол загона должен быть покрыт асфальтом или бетоном, чтобы легче было его убирать. У задней стенки размещают деревянную возвышенность с гнездовыми коробками. Посуду для корма и воды размещают на бетонном полу.

При наружном содержании можно комплектовать более крупные группы нутрий. Загон располагают вблизи бассейна или помещают в него ванночки для купания. Надо следить, чтобы животные, роя норы, не могли вырваться на свободу. Чтобы предотвратить это, нижнюю часть стены зарывают на глубину 30–40 см под углом. В крупных группах обычно держат молодых нутрий; при этом нужно следить за их совместимостью. Агрессивных животных следует изолировать.



Раздел ведет агрономом Федор ВЕРАВОЙША.




**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71. Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**

nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**



9 772071 964000 17066

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 21.08.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 103 экз. Заказ № 2898.